

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**У Бабруйскім раёне мясцовыя патрыёты з БПСМ заклалі парк свайго імя. Акрамя традыцыйных ліпак і бярозак туды закапалі мімозы і барбарысы. Але памыляюцца тыя, хто думае, што слаўныя патрыёты скідваліся грашыма, напружана шукалі магчымасьці, каб закласьці сквэр. Грошы даў райвыканкам. Калі пасаджаныя дрэўцы чакае будучыня, якая, спадзяюся, напаткае БПСМ, не зайздрошчу я расьлінам.**

**По зысках пракуратуры Клімавіцкага раёну ў некалькіх калгасах пакаралі з паўсотні чалавек за тое, што дохла ў гэтым годзе скаціна. Пільнае пракурорскае сьледства выкрыла, што самыя вінаватыя ў тых "жывёльных трагедыях" скотнікі і даяркі, з-за неахайнасьці якіх каровы паміралі ад бяскорміцы. Калгасьнікам, што не атрымліваюць заробкаў па паўгады, яшчэ і штрафы павыпісвалі ў памеры некалькіх "новых" тысяч на кожнага... А можа таму ім і павыпісвалі, што ведаюць: ніякіх грошай ад тых калгасьнікаў усё роўна не дачакацца? Іншае пытаньне: ці тых судзілі? Ці не зьвялі ўсё да звычайных стрэлачнікаў...**

**Большасьць магілёўцаў мела магчымасьць адчуць на сябе наступствы моцнага ветру, што праляцеў над горадам. Там-сям адключаная электрычнасьць, перагарэлыя электрапрыборы – праявы прыроднай стыхіі. Але былі і больш сур'ёзныя выпадкі. Вецер, што месцамі ляцеў з хуткасьцю амаль 90 км у гадзіну, у палове ўсходніх раёнаў вобласьці пазрываў дахі, разварушыў дамы. Добра хоць,што людзі цэлымі засталіся.**

**Адны магілёўцы толькі з жахам чакаюць, а другія ўжо жывуць без гарачай вады. Як і штогод, нашыя камунальнікі мусяць скіроўваць нас на пакуты: выдумляць розныя спосабы, неяк выкручвацца і насуперак усяму выконваць неабходныя санітарна-гігіенічныя патрабаваньні. І калі падобная практыка адыйдзе ў нябыт, сёньня ня скажа ніхто. Ужо ў 21-е стагодзьдзе ўходзім, а гэтае дзікунства перасьледуе нас, і канца яму ня бачна.**

**Магілёўскія кантралёры выкрылі самых вялікіх растратчыкаў дзяржаўных грошай. Аказваецца, яны працуюць у абласной філярмоніі. Кантралёры наракаюць на гэтую ўстанову за правядзеньне фэстывалю "Залаты шлягер". На фэст пайшло аж 240 мільярдаў старых грошай. Сапраўды шмат. Ня ў тым сэньсе, што на мастацтва трэба мала траціць. Папершае, сапраўднае мастацтва ўвогуле дарагое. Шкада іншага. На беларускае мастацтва такіх грошай ня траціцца. Шкада і таго, што праведзенае, тым ня менш, на высокім арганізацыйным узроўні мерапрыемства можна правесьці толькі з парушэньнямі, якія народжаныя дубовай сыстэмай разьлікаў, што засталася нам ад Савецкага Саюза й добра ўжо сёньня намі "удасканалена". А яшчэ шкада, што вінаватым у правядзеньні, магчыма, сапраўды ня самага патрэбнага фэстывалю зрабілі выканаўцу, а не заказчыка – той жа аблвыканкам ці міністэрства культуры.**

**У нашых лясах пачаўся "пажарны" сэзон. І гэта ня жартачкі. Напрыклад, у Глускім раёне агонь падыйшоў амаль да нафтавай сьвідравіны і ледзьве не падпаліў яе. А побач жа яшчэ і склад з палівам быў. Увогуле, зараз у асіповіцкіх і глускіх лясах гараць каля 150 гектараў. Таму ўлады прынялі рашэньні абмежаваць доступ у лясы гэтых раёнаў. Добра, што пакуль няма ягадаў, і людзі збольшага едуць на лецішчы. Але ж памятайце пра пагрозу, якая зь цягам часу і сьпякоты будзе расьці. Дый самі выпадкова не падпальвайце лясы.**

**Пачынаецца пара студэнцкіх іспытаў. А зь яе надыходам пачынаецца праца яшчэ адных кантралёраў. Іх сваім указам завёў прэзыдэнт. Гутарка пра кантралёраў, што сочаць за працай прыёмных камісіяў, за ходам іспытаў. Як заўжды, прафэсараў і дацэнтаў правяраюць спрытныя хлопчыкі з БПСМ і настаўнікі сярэдніх школ. Нічога ня маю супраць грамадзянскіх правоў кожнага з кантралёраў, але маю шмат чаго супраць іх імкненьня кантраляваць тое, у чым яны не разьбіраюцца. І яшчэ пратэстую супраць самой падобнай сыстэмы, якая робіць адно – яшчэ больш павышае карупцыю. Плаціць трэба ня толькі выкладчыку, але і правяральшчыку. Што і робіцца, і магілёўскія ВНУ тут не выключэньне. Так што армія кантралёраў "ад прэзыдэнта" ужо чакае вас, абітура і выкладчыкі.**

*Да сустрэчы,*
***Сымон Глазштэйн.***

## "По их виду было видно..."

*"Па іх выгляду было бачна, што яны ідуць не на мітынг", – такую глыбокую пранікнёнасьць у сапраўдныя намеры людзей выявіў адзін з ОМОНаўскіх сьведкаў, калі даваў паказаньні ў Цэнтральным раённым судзе г.Магілёва.*

А суд разглядаў справу аб "адміністрацыйных праваапарушэньнях" з боку тых, каму міліцыянты перашкодзілі дайсьці да гарадзкога Першатравеньскага мітынгу ("ТМ" №17). Тады было затрымана 14 чалавек, якія замест мітынгу правялі час у пастарунку. Да некаторых затрыманых міліцыя выставіла абвінавачваньні, што й сталася прычынай судовага паседжаньня.

11 траўня спадарыня Ірына Сарока, судзьдзя па адміністрацыйных справах, разгледзела матэрыялы на Сяржука Гіркіна, Віталя Макаранку і Аванэса Мурадзяна.

Хлопцы рухаліся па Піянэрскай у бок пл.Леніна. Сяржук нёс пад крысом курткі складзены бел-чырвона-белы сьцяг, Віталь Мараканка – дрэўка. Аванэс, як і астатнія, ішоў без "крамольных" рэчаў. Аднак усіх спынілі омонаўцы В.Аўдзееў і А.Барысенка. Пасьля затрыманьня яны склалі на хлопцаў пратаколы аб "непадпарадкаваньні законным патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі". А праз колькі дзён С.Гіркіна па тэлефоне выклікаў у міліцыю маёр Чумакоў. У выніку гутаркі спадара Сяржука перакваліфікавалі ў "арганізатара падрыхтоўкі несанкцыянаваных мітынгу і шэсьця". Больш сур'ёзныя абвінавачваньні тымчасам былі сфармуляваныя і на Аванэса Мурадзяна. Гэта зрабілі падпалкоўнік міліцыі Алёнушкін (што кіраваў, дарэчы, затрыманьнем), маёр Фёдараў, лейтэнант Тодараў, міліцыянты Лапато і Атрошчанка.

Што ж выявілася ў судзе наконт міліцэйскай лёгікі і разуменьня ахоўнікамі закону гэтага самога закону?

<u>Першае.</u> ***Падчас руху на афіцыйны мітынг мусіце мець дазвол гарвыканкама на ўдзел у ім.*** Бо менавіта адсутнасьцю такога дазволу кіраваліся міліцыянты пры затрыманьні Гіркіна ды іншых. У судзе афіцэры зь вялікімі зоркамі на пагонах тлумачылі "хапун" людзей тым, што гарвыканкам напярэдадні сьвята адмовіў "апазыцыянэрам" у правесьці мітынг і шэсьце. Яны, як вядома, нічога й не праводзілі асобна, а вырашылі далучыцца да агульнагарадзкога мерапрыемства. Якім чынам міліцынты здолелі сярод усіх, хто рухаўся ў той дзень на плошчу, вызначыць, хто сярод іх "апазыцыянэр", а хто – не, засталося для суда і прысутных на ім невядомым і незразумелым.

<u>Другое.</u> ***Пры задуме выкарыстаць на мерапрыемстве сьцяг мусіце мець пры сабе такое да яго дрэўка, каб не ўзьнікала падазрэньняў, што яго можна выкарыстаць у якасьці "халоднай зброі".*** Бо паводле тлумачэньняў бравых омонаўцаў Сяржук Гіркін (дарэчы, інвалід – хай ён даруе аўтару гэтую заўвагу) мог скарыстаць "драўляную палку з мэталёвым наканечнікам у якасьці сродку нанясеньня шкоды здароўю грамадзянаў". (Да таго ж нагадаем, што дрэўка было пры Віталю Макаранку, а не ў Сяржука).

Рашэньні суда, аднак, былі больш лягічнымі: ***спыніць справы праз адсутнасьць у дзеяньнях абвінавачваемых складу правапарушэньня.***

Нібыта ёсьць падставы сьвяткаваць перамогу здаровага сэнсу і Закона. Аднак нават справядлівае рашэньне суда па гэтых выпадках не дадае аптымізму. Бо і надалей застаецца "запраграмаваны" стыль паводзінаў людзей у міліцэйскай форме: "***Я имею право остановить любого. Основание – моя пятнистая форма***". Гэта не прыдумана аўтарам карэспандэнцы, ***гэта гучала ў залі суда.*** А апірышчам такога разуменьня сваіх абавязкаў зьяўляецца, на жаль, поўная недасьведчанасьць насельніцтва адносна сваіх правоў.

<u>P.S.</u> Карэспандэнт "ТМ" удзельнічаў у судовым разьбіральніцтве датычна сп.Гіркіна, таму больш падрабязна спыніўся менавіта на гэтай справе. У судзе ён выступаў разам з дырэктарам Магілёўскага праваабарончага цэнтра Сяргеем Абадоўскім у якасьці прадстаўніка "правапарушальніка" (арт.62 Канстытуцыі РБ кожнаму з нас дае права мець свайго прадстаўніка ў стасунках з афіцыйнымі асобамі і дзяржаўнымі органамі).

<u>P.P.S.</u> Некалькі праваабарончых парадаў:

**1.** Не хадзіце на размовы зь міліцыянтамі і з прадстаўнікамі КГБ ці іншых "сілавых" структураў, калі вас "запрашаюць" па тэлефоне. Такі выклік ня можа лічыцца афіцыйным. А "сяброўская гутарка" нечакана для вас, як гэта сталася зь Сяржуком Гіркіным, дадасьць толькі новых непрыемнасьцяў.

**2.** Пры дачыненьнях з "органамі" не пазьбягайце зваротаў па дапамогу да тых, каму давяраеце, а лепш – да праваабарончых арганізацыяў. Кансультацыю заўсёды можна атрымаць у Магілёўскім праваабарончым цэнтры, мясцовых прадстаўніцтвах Беларускага Хельсінскага Камітэта, праваабарончага камітэта "Вясна-96", у арганізацыях Свабодных прафсаюзаў, офісах дэмакратычных палітычных партыяў.

***Валадар ЦУРПАНАЎ,***
*карэспандэнт "ТМ"*



## Аб краіне далёкай, аб краіне сваёй...

**Цікавасьць у Горках** выклікала выстава магілёўскага фотамайстра Аляксандра Ліціна "Ізраіль: позірк зь Беларусі". Зробленая ў час падарожжа аўтара па Сьвятой Зямлі экспазыцыя складаецца з 50 чорнабелых фотаздымкаў і адлюстроўвае жыцьцё Ізраіля вачыма беларускага суродзіча. Замова на выставу паступіла да аўтара таксама зь іншых рэгіёнаў Беларусі.

**Хуткім часам** паедзе ў падарожжа па Магілёўшчыне перасоўная фотавыстава сябраў магілёўскага клюбу вандравальнікаў "Чароўны ўспамін" Аляксандра Ліціна, Алеся Агеева, Васіля Аўраменкі, Сяргея Мірайлы. Помнікі дойлідства Беларусі разам з грунтоўнымі гісторыка-краязнаўчымі камэнтарамі знайшлі адлюстраваньне на 25 фотастэндах. Здымкі для экспазыцыі былі зробленыя ў часе вандровак па Беларусі. Напачатку фотавыстава мяркуе заехаць у Бабруйск, Горкі і Крычаў.

***Паводле BARC-List***

## Як пераадолець "паласу перашкодаў"

Нядаўна ў рамках акцыі "За роўныя правы" адбыліся пікеты інвалідаў супраць дыскрымінацыі асобаў з абмежаванымі фізычнымі магчымасьцямі. Вось я й вырашыў паглядзець у тых гарадах, дзе часьцей бываю, на тое, як пачуваюцца інваліды сярод нас. Пачуваюцца яны дрэнна ў самым што ні на ёсьць дробязным сэньсе. Але гэта для нас падаецца дробязным, а для іх гэта – праблема, нярэдка непераадольная.

Вось, прыкладам, наш Глуск. Будынак райвыканкаму. Нават чалавеку здароваму нялёгка ўзьняцца па прыступках, асабліва ў дождж ці сьнег. Зразумела, што няма аніякіх парэнчаў. Неаднойчы бачыў, як інваліду проста немагчыма зайсьці ў будынак. Ня лепш клапоцяцца пра людзей у крамах: паўсюль шыкоўныя прыступкі, якімі варта было б усьцілаць лядовыя палацы, а ня ганкі грамадзкіх будынкаў. Што казаць пра інвалідаў, калі здароваму старому чалавеку няпроста пераадолець гэтыя "палосы перашкодаў".

А вось Бабруйск. Шыкоўны аўтавакзал. Аднак зайсьці ў яго альбо па патрэбе спусьціцца ў падземную прыбіральню – праблема. Не магу ўявіць, як гэта можа зрабіць чалавек на інваліднай калясцы. Няма парэнчаў на лесьвіцы, якая вядзе на 2-гі паверх. Дырэктар аўтавакзала А.Секаржыцкі скардзіцца на адсутнасьць грошай, каб вырашыць гэтае пытаньне. А ў якасьці выйсьця раіць інвалідам і пажылым людзям зьвяртацца па дапамогу да дзяжурнага па вакзалу, ён, маўляў, дапаможа. Вы гэта можаце сабе ўявіць? Але гаворыць пра гэта дырэктар на поўным сур'ёзе.

Нашы гарады разьлічаны толькі на здаровых людзей. Нядаўна Глуск наведалі прадстаўнікі адной швэцкай грамадзкай арганізацыі. У яе складзе быў чалавек на калясцы. Бачылі б вы – зь якой павагай і клопатам ставіліся да яго ўсе сябры. Аднак ня ўсюды швэды маглі пабываць разам з гэтым чалавекам, дзе хацелі. Вельмі зьдзіўленыя былі гэтымі абставінамі нашыя госьці. У іх дома ўсё зроблена для зручнасьці людзей, якія маюць рухальныя абмежаваньні. Гэта нармальна, цывілізавана, паважліва. Гэта разглядаецца як забесьпячэньне правоў чалавека. Калі мы да такога разуменьня дойдзем?

***Ігар КІРЫН***

# Праграма тэлебачаньня з 22 па 28 траўня

Праграму тэлеканалаў мы друкуем на замову чытачоў. Гаспадары праграмы падаюць нам яе на расейскай. Рэдакцыя фізычна (па часе) не пасьпявае яе перакласьці. Просім разглядаць гэтыя старонкі як тэхнічна-службовы матэрыял, які ня мае дачыненьня да зьместу й характару нашай газэты.

## •• Понедельник, 22 мая ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.35 Новости.
8.15 Резонанс
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Сегодня с вами...»
9.50 Здоровье.
10.15 Мультфильмы.
10.35 Теленавигатор.
11.10 «Все мои дети». Телесериал.
11.55 «Судьба человека». Стюардесса Наталья Бондаренко.
12.25 Музыка без границ.
15.15 «Тайный мир Алекс Мак-2».
15.40 Мультфильм.
16.15 ТВ — школе.
16.35 Авто-парк.
16.45 Премьера песни.
17.15 «А музыка звучит...»
17.45 Док. экран. «Дорога к Пушкину». 1-я серия.
18.10 «Тайны женского характера».
18.40 МСН.
19.20 Политические диалоги.
19.55 «Все мои дети». Телесериал.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 «Одиссея команды Кухто».
22.25 Худ.фильм «Догма-1. Торжество».
0.05 Третий тайм.
0.45 Криминальная хроника.
0.50 «Неизвестный Наполеон». Видеофильм.

### ОРТ

13.30 «Вместе».
14.00, 17.00, 23.35 Новости.
14.20 Что да как.
14.35 Мультсеанс.
14.45 Звездный час.
15.10 ...До шестнадцати и старше.
15.45 Сериал «Хождение по мукам».
17.30 «С легким паром!»
18.00 Как это было. Киевский потоп. 1961 год.
18.45 «Нежный яд». Сериал.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Мистический триллер «Полтергейст - III».
22.50 Взгляд.
23.50 Сериал «Майк Хаммер: Провал в памяти».

### РОССИЯ

15.45 Мультфильм.
16.00, 19.00, 22.00 Вести.
16.30 «Башня».
16.55 Почта РТР.
17.25 «Вечера в Политехническом».
18.25 «Вино-шоу-кур».
19.40 «Дикий ангел».
20.35 Худ. фильм «Остров фантазий».
21.30 «Грязные танцы».
22.35 «Футбол + ТВ».
23.30 «Дежурная часть».

### НТВ

5.00 Сегодня утром.
7.55 Независимое расследование.
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.30 Вчера в «Итогах».
12.45 Куклы.
13.25 «Каменская. Стечение обстоятельств». Фильм 1-й. Часть 2-я.
14.25 «Один день».
15.35 Старый телевизор.
16.20 Интересное кино.
16.35 Впрок.
16.45 Футбольный клуб.
17.40 Криминал.
18.35 Герой дня.
18.55 Сериал «Сезон охоты». 1-я серия.
19.55 Совершенно секретно.
21.45 Сериал «Месть без предела». (США).
22.35 Сегоднячко.
23.15 Сегодня в полночь.
23.40 «Антропология».
0.15 Лига чемпионов.

### КУЛЬТУРА

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 Художник В.Конопкин.
11.55, 13.45 Дж.Пуччини. «Манон Леско». В постановке театра «Ковент-Гарден».
14.35 И.Бабель. «Мой первый гонорар». Исполняет В.Андреев.
15.00 Новости.
15.10 «Чародей. Страна великого дракона».
15.35 Берега Набокова.
16.05 Китайский кукольный театр.

### НА КАНАЛЕ БТ

13.15 Пунктир.
13.55 Видеодром.
14.15 Могилевщина православная.
14.35 «Среди непройденных дорог».
14.50 Мультфильм.

### МОГИЛЕВ-1

6.30,7.10 «Ранехонько!»
7.00 «Астро-дайджест».
8.05 «Искушение».
8.50 «Смотри как они растут». Док. сериал.
9.15 «Джеремая Джонсон». Вестерн.
16.30 «Диагноз: убийство». Телесериал.
17.20 Мультфильм.
17.30 «Мудрость древних». Док. сериал.
17.55, 20.00 Праздник в вашем доме.
19.00 Тяжелый день.
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.45 »Моя Анфиса». Худ. фильм.
21.55 Астро-дайджест.
22.00 «Каменская. Не мешайте палачу». Детектив.

### 2-Й КАНАЛ

7.00 «Энергетический завтрак».
8.10 ТВ-6.
10.50 Муз. коллекция.
15.00 ТВ на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30, 21.30 Городские новости.
18.45 «Большое звериное шоу.-Сумчатые». Док. фильм.
19.10 Мультфильм.
19.30, 20.30 «Поздравления».
20.15 «В гостях у бабки Агапки».
21.20 Высокая мода.
21.45 Боевик «Большой босс».
23.25 Спорт. программа

## •• Вторник, 23 мая ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.15 Новости.
8.10 Политические диалоги.
8.40 Потребительская корзина.
9.15 ТВ — школе.
9.35 «Тропинка в небо». Худ.-фильм.
10.10 «На волне взаимопонимания».
11.15 «Все мои дети». Телесериал.
11.55 «Одиссея команды Кухто».
12.25 Третий тайм.
13.10 Земляки.
14.10 Туробъектив.
14.30 Бездельник.
15.10 Мультфильмы.
15.40 Видеокурс английского языка.
16.05 Сельчане.
16.30 «Дорога к Пушкину». 2-я серия.
17.10 Фильм-концерт.
17.30 МСН.
17.45 Док.сериал «Исторические расследования».
18.25 «Москва — Минск».
19.15 Ток-шоу «Будни».
20.00 «Все мои дети». Телесериал.
20.45 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 «Записки юного врача». Худ. фильм.
22.55 Музыкальный салон .
23.25 Футбол. Чемпионат РБ. БАТЭ — «Локомотив-96". 2-й тайм.
0.25 Криминальная хроника.
0.30 «Неизвестный Наполеон». Видеофильм.

### ОРТ

13.30 «Вместе».
14.00, 17.00, 23.35 Новости.
14.20 Возможно все.
14.35 «Царь горы».
15.00 ...До шестнадцати и старше.
15.35 Сериал «Хождение по мукам».
17.30 Смехопанорама.
18.00 Жди меня.
18.45 «Нежный яд». Сериал.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Г.Вицин, Е.Моргунов и Арчил Гомиашвили в фильме «Комедия давно минувших дней».
22.35 «Серебряный шар».
23.50 Сериал «Пятница, 13-е».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20 «Дежурная часть».
8.40 «Арена — спорт».
9.15 «Цыганка».
10.05 «Санта-Барбара».
11.00 Телеспецназ.
11.25 Москва — Минск.
15.45 Мультфильм.
16.30 «Башня».
16.55 Сиреневый туман.
17.25 «Фрак народа».
18.25 «Устами младенца».
19.40 «Дикий ангел».
20.35 «Остров фантазий» (США).
21.30 «Грязные танцы».
22.30 Кристиан Слейтер в мелодраме «Отчаянно влюбленный» (США).
0.15 «Дежурная часть».

### НТВ

5.00 Сегодня утром.
7.55 Совершенно секретно.
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.30 Елена Соловей в фильме «Драма из старинной жизни».
13.30 Сериал «Месть без предела». (США).
14.20 «Чистосердечное признание».
15.35 Старый телевизор.
16.20 Интересное кино.
16.35 Впрок.
16.45 «Она написала убийство».
17.40 Криминал.
18.35 Герой дня.
18.55 Сериал «Сезон охоты».
19.55 «Глас народа».
21.45 «Месть без предела». Сериал.
22.45 Сегоднячко.
23.25 Сегодня в полночь.
23.50 «Антропология».

### КУЛЬТУРА

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 «Тени над Нотр Дам». Худ. фильм. 1-я серия.
13.15 Поклонникам Терпсихоры.
13.45 Мультфильм.
14.15 «Кто там...»
14.40 Телеэнциклопедия.
15.00 Новости.
15.10 «Чародей. Страна великого дракона».
15.35 Док. фильм.
16.05 Ортодокс.

### МОГИЛЕВ-1

6.30,7.10 «Ранехонько!»
7.00 «Навіны раніцы».
8.05 «Искушение».
8.55 «Смотри как они растут». Док. сериал.
9.20 «Каменская. Не мешайте палачу». Детектив.
17.00 «Диагноз: убийство». Телесериал.
17.50, 20.00 «Праздник в Вашем доме».
19.00 Бобруйский вариант.
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.45 «Только ты». Телесериал.
21.30 Астро-дайджест.
21.35 «Лживая луна». Мелодрама.

### 2-Й КАНАЛ

7.00 «Музыкальная программа».
9.00-17.00 Профилактика
17.00 ТВ на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30 Мультфильм.
18.40 «Пляж».
19.25 «Поздравления».
21.00 «Путешествие в дикую природу.Сад осьминога». Док.-фильм.
21.25 Высокая мода
21.35 Исторический фильм «Полет ворона».
23.05 Спорт. программа

## •• Среда, 24 мая ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.10 Новости.
8.15 «Сегодня с вами...»
8.40 Потребительская корзина.
9.10 «Ральф, здравствуй!» Короткометражный худ. фильм.
9.35 Родное слово.
10.05 Компьютерный полигон.
10.25 Зорная ростань.
11.15 «Все мои дети». Телесериал.
12.00 Ток-шоу «Будни».
12.45 Ко Дню славянской письменности и культуры.
13.15 Видимо-невидимо.
14.25 Ток-шоу «Карамболь».
15.10 «Тайный мир Алекс Мак-2».
15.35 ТВ — школе.
16.00 «5 х 5».
16.30 «А музыка звучит...»
17.15 Ко Дню славянской письменности и культуры.
17.30 «Макаенка,9».
18.00 Док. сериал «Исторические расследования».
18.40 МСН.
19.15 Лотерея «Толока».
19.25 «Наши песни».
19.55 «Все мои дети». Телесериал.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Худ. фильм «Был месяц май».
23.40 Королевская охота.
0.20 Криминальная хроника.
0.25 Волейбол. Чемпионат Европы. Девушки. Беларусь — Португалия.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.45 Новости.
8.15 «Нежный яд». Сериал.
9.15 Пока все дома.
9.45 Жди меня.
10.30 Сериал «Новые приключения Синдбада».
13.30 «Вместе».
14.20 Классная компания.
14.35 Зов джунглей.
15.00 ...До шестнадцати и старше.
15.35 Сериал «Хождение по мукам».
17.30 Маски-шоу.
18.00 Человек и закон.
18.45 «Нежный яд». Сериал.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 А.Збруев и М.Ульянов. Комедия «Все будет хорошо».
22.55 Посвящается 60-летию Иосифа Бродского.
0.00 Сериал «Пятница, 13-е».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20,1.20 «Дежурная часть».
8.40 «Арена — спорт». Тележурнал.
9.15 «Цыганка».
10.05 «Санта-Барбара».
15.45 «Крот и зонтик». Мультфильм.
16.30 «Башня».
16.55 «Круглая дата». Андрей Эшпай.
17.25 «Кинескоп».
18.25 Сам себе режиссер.
19.40 «Дикий ангел».
20.35 «Остров фантазий» (США).
21.30 «Грязные танцы».
22.30 «Мужчина и женщина».
23.20 Б. Стрейзанд и Р. Дрейфус в фильме «Чокнутая» (США).

### НТВ

5.00 Сегодня утром.
7.45 Интересное кино.
7.55 «Глас народа».
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.35 В нашу гавань заходили корабли.
12.40 «Среда».
13.30 Сериал «Месть без предела».
14.25 «Итого».
14.45 Мультфильм.
15.35 Старый телевизор.
16.20 Интересное кино.
16.35 Впрок.
16.45 «Она написала убийство».
17.40 Криминал.
18.35 Герой дня.
18.55 Сериал «Сезон охоты».
19.55 Суд идет.
21.35 Лига чемпионов. Финал. «Реал» (Испания) — «Валенсия» (Испания).
23.35 Сегодня в полночь.
0.00 «Антропология».

### КУЛЬТУРА

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 «Тени над Нотр Дам». Худ. фильм. 2-я серия.
13.45 Мультфильм.
14.15 «15-й подъезд».
14.40 Телеэнциклопедия.
15.00 Новости.
15.10 «Чародей. Страна великого дракона».
15.35 «Беседы о русской культуре».
16.20 Поклонникам Терпсихоры.

### МОГИЛЕВ-1

6.30,7.10 «Ранехонько!»
7.00 «Навіны раніцы».
8.05 «Искушение».
8.55 «Смотри как они растут». Док. сериал.
9.20 «Лживая луна». Мелодрама.
17.00 «Диагноз: убийство». Телесериал.
17.50, 20.00 «Праздник в вашем доме».
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.45 «Только ты». Телесериал.
21.30 Астро-дайджест.
21.35 «Могилевская музыкальная весна 2000».

### 2-Й КАНАЛ

7.00 «Энергетический завтрак».
17.00 ТВ на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30, 21.30 Городские новости.
18.45 «Охотники за сокровищами».Док.фильм.
19.10 Мультфильмы.
19.30, 20.30 «Поздравления».
20.15 «В гостях у бабки Агапки».
21.20 Высокая мода.
21.45 Исторический боевик «Тень ворона».
23.15 Спорт. программа

## •• Четверг, 25 мая ••

### БТ

6.30 ,7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.10 Новости.
8.15 «Сегодня с вами...»
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Королевская охота.
9.40 Телевизионный Дом кино.
10.20 Мультфильм.
11.10 «Все мои дети».
11.55 «Наши песни».
12.25 Наш край.
12.45 «Побег». Док. фильм.
13.10 «Такие разные клоуны». Телефильм.
14.00 А.Скрябин. 3-я симфония.
15.10 Мультфильмы.
15.40 Видеокурс английского языка.
16.05 Телеочерк.
16.25 Второй фестиваль фортепианной музыки в г.Могилеве.
17.10 Арсенал.
17.35 Усадьба.
18.00 «Сити». Сериал.
18.45 МСН.
19.15 «Премьер-парад».
19.40 Телебарометр.
19.55 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Ироническая мелодрама «Осторожно, двери закрываются!»
23.35 Волейбол. Чемпионат Европы. Девушки. Беларусь — Франция.
0.20 Криминальная хроника.
0.25 Матч звезд белорусского баскетбола.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.30 Новости.
8.15 «Нежный яд». Сериал.
9.15 Маски-шоу.
9.45 Человек и закон.
10.30 «Новые приключения Синдбада».
13.30 «Вместе».
14.20 Семь бед — один ответ.
14.35 «100%».
15.00 ...До шестнадцати и старше.
15.35 Сериал «Хождение по мукам».
17.30 «Каламбур».
18.00 Процесс.
18.45 «Нежный яд».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Боевик «Крестоносец».
22.55 «Собрание заблуждений».
23.45 Боевик «Рейд на Энтебе».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20, 0.45 «Дежурная часть».
8.40 «Арена — спорт».
9.15 «Цыганка».
10.05 «Санта-Барбара».

